 



# ПАД БОТАМ АКУПАНТА

Марачны перыяд у гісторыі паштовага абарачэньня на тэрыторыі сучаснай Беларусі пачаўся 1 студзеня 1858 года. Беларусь тады ўваходзіла ў склад Расейскай імпэрыі, і на яе землях функцыянавала расейская пошта, а ў абарачэньні, зразумела, знаходзіліся імпэрскія паштовыя маркі. З лютага 1858 году паштовыя маркі гасілі адмысловымі штэмпелямі з трох канцэнтрычных кропкавых ліній і адпаведным нумарам у цэнтры. У губернскіх і абласных местах выкарыстоўваліся круглыя штэмпелі (Віцебск №6, Гародня №11, Менск №25, Магілёў №16), авальныя – у прыгранічных местах (Брэст №1), прастакутныя – у павятовых местах (у Віцебскай губерні №№42–53, Гарадзенскай – №№104–110, Менскай – №№246–254, у гарадах Магілёўскай губерні №№255–269).

Кропкавыя штэмпелі выкарыстоўваліся да 1863 году. У 1860 годзе ўведзены каляндарныя штэмпелі з назвай паштовага аддзяленьня й даты. Земская пошта (мясцовая паштовая сувязь) на тэрыторыі Беларусі не ўводзілася. У Смаленску былі выпушчаны дзьве маркі Смаленскай земскай пошты.

У час першай сусьветнай вайны, калі ў кастрычніку 1915 года лінія фронту стабілізавалася па лініі Пінск-Баранавічы-Паставы – усходней Вільні, на акупаваных кайзэраўскімі войскамі тэрыторыях Беларусі, Летувы й Паўднёвай Курляндыі для паслуг грамадзянскага насельніцтва 15 студзеня 1916 года была створана „Паштовая вобласьць Вярхоўнага галоўнакамандуючага на Усходзе" („Postgebiet Oberbefehl shaber Ost"). Былі выпушчаны маркі й паштовыя карткі. На марках Нямеччыны адбілі ў два радкі гатычным шрыфтам надпіс: „„Postgebiet Ob.Ost", (1). Кошт марак абазначаўся ў нямецкай валюце.

Спачатку гэтая пошта дзейнічала толькі на акупаванай тэрыторыі, затым яе ўнутраная сувязь распаўсюдзілася на Нямеччыну й на краіны яе саюзьнікаў яшчэ пазьней – на нейтральныя дзяржавы. Паштовыя канторы былі адчынены ў местах Баранавічы, Беласток, Брэст, Гародня, Кобрын, Ліда, Наваградак, Пружаны, Скіндаль, Слонім, Вільня, Ваўкавыск і іншыя. Нямецкае паштовае ведамства Вярхоўнага галоўнакамандуючага на Усходзе спыніла існаваньне 28 сьнежня 1918 году. Усяго ім было выпушчана вялікім накладам 12 паштовых марак.

Па распараджэньню нямецкага галоўнакамандуючага жыхарам Беластоку й прылеглай тэрыторыі 3 ліпеня 1916 года было дазволена пасылаць кароткія паведамленьні сваякам за мяжу на адмысловых картках акупацыйнай адміністрацыі. У картцы, акрамя адрасу, прыводзіліся кароткія анкетныя дадзеныя чалавека, якога шукалі. Для кантролю й аплаты перасылкі паштовых запытваньняў нямецкія ўлады Беластоцкага павету выпусьцілі адмысловыя маркі, у выявах якіх выкарыстана гістарыяная сімболіка мясцовай геральдыкі: у версе тарчы, падзеленай на дзьве часткі, зьмешчаны арол, у нізе – Пагоня (2). У такім жа парадку размешчаны й надпісы: „Briefvermittlund („Пісьмовае паведамленне") і „Bialystok" („Беласток").

Гэтыя маркі па сутнасьці выконвалі ролю квітка. На ёй ставіў подпіс паштовы чыноўнік (3), што, між іншым, было не заўсёды. З 11 жніўня 1916 году паштовае адпраўленьне каштавала, як сьведчыць наддрукоўка, 25 пфенігаў, з 18 кастрычніка 1916 году – да 1 маркі. Паштовыя маркі Беластока гасілі адмысловымі круглымі штэмпелямі. Надпісы на штэмпелях для акружных уладаў „Militarkreisamt Bialystok – Stadt" („Вайсковае ведамства места Беластока"). Наклад – невялікі: марак коштам 25 пфенігаў выпушчана 4600. 1 марка – 1470 штук.




Выявы 1–10. (Нумары ў тэксьце пазначаны ў дужках. Лічыць па радах зьлева направа).

18 лютага 1918 года войскі кайзэраўскай Нямеччыны, парушыўшы дамоўленасьць пра пераміре, пачалі наступ і акупацыю цэнтральнай і ўсходняй Беларусі. 17 ліпеня 1918 году па распараджэньню камандуючага X арміяй была створана пошта на тэрыторыі ад Эстоніі й Курляндыі на поўначы да Украіны на поўдні. Сюды ўвайшлі дзьве вобласьці каля Баранавіч і Навагрудку, акупаваныя яшчэ ў 1915 годзе. Пошта X арміі абслугоўвала толькі грамадзянскае насельніцтва. Лісты вайскоўцаў дасылаліся бясплатна. Выкарыстоўваліся звычайныя маркі Нямеччыны. У прыфрантавую зону перасылка ліста каштавала 30, у іншыя мясцовасьці – 10 пфенігаў.

У жніўні 1918 году ў друкарні X арміі, размешчанай у Менску, былі выпушчаны 3 паштовыя маркі. На грубой белага колеру паперы адбіты кантрольны знак – выкананая ў выглядзе карунка светла-карычневая вертыкальная палоска шырынёю 14 мм. На дзьвюх марках была зроблена на расейскай мове, у два радкі, наддрукоўка: „Контрольный знак, цена 30 пф., (4), на другой – 60 пф. Наддрукоўка трэцяй маркі была іншай. Агульны наклад трох марак – 50000 штук. Маркі гасілі штэмпелямі з расейскімі надпісамі чорнага, фіялетавага, сіняга колераў.

У сакавіку 1918 году ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі і ў некаторых раёнах Магілёўшчыны й Міншчыны дзейнічала пошта 1–га польскага корпусу І. Р. Доўбар-Мусьніцкага. Сфармаваны ў Магілёўскай губэрні для барацьбы з немцамі корпус пасьля кастрычніцкага перавароту адмовіўся падпарадкавацца новай уладзе й пасьля некалькіх узброеных сутычак адыйшоў у бок Бабруйска, дзе й была адчынена паштовая кантора корпусу з паштовымі аддзяленьнямі ў Магілёве, Быхаве, Асіповічах, Рагачове, Жлобіне. Былі зроблены два выпускі паштовых марак шляхам наддрукоўкі на марках Расейскай імпэрыі двухрадковага надпісу на польскай мове: („Пошта польскага корпусу" і польскага арла (5). На марках другога выпуску, акрамя гербу й надпісу „Польскі корпус" быў надрукаваны новы намінал у расейскай валюце (6). Гэткім чынам былі выкарыстаны й паштоўкі былой Расейскай імперыі. Пошта польскага корпусу абслугоўвала як вайскоўцаў, так і грамадзянскае насельніцтва. 21 траўня 1918 года корпус быў расфармаваны 2 ліпеня 1918 года польская пошта спыніла сваё існаваньне.

У лістападзе 1918 года ў Нямеччыне ўспыхнула рэвалюцыя. Нямецкае войска пасьпешліва пакінула тэрыторыю Беларусі. На зьмену ім прыйшлі бальшавікі, і ў студзені 1919 года Чырвоная армія авалодала амаль усёй тэрыторыяй Беларусі (у межах сучаснай БССР), акрамя значнай часткі Гарадзенскай губэрні.

Пасьля эвакуацыі нямецкіх акупацыйных войскаў з тэрыторый на Усходзе, там засталіся нямецкія афіцэры сувязі (акрамя тэрыторый, захопленых бальшавікамі) для вырашэньня разнастайных пытаньняў, зьвязаных з папярэднім знаходжаньнем нямецкіх войскаў, а таксама для апекаваньня над нямецкім насельніцтвам, што жыло там, і ваеннапалоннымі, якія вярталіся дадому.

Пасьля захопу Гародні польскім войскам 27 красавіка 1919 года там з прыватнай ініцыятывы былі выраблены паштовыя маркі шляхам наддрукоўкі на марках былой Расейскай імпэрыі польскага надпісу: „40 (Poczta Polska", / „Польская пошта, 40 грошай"/, /7/, выканага фіялетавай альбо чорнай фарбай. Для чаго былі выкарыстаныя расейскія маркі №№64–66, 68 і ўкраінская марка №8 /па каталёзе Michel/. Польская акупацыйная адміністрацыя адмовілася ад гэтых марак. У выніку яны аказаліся ў нямецкага афіцэра сувязі лейтэнанта Баўэра, які зрабіў на марках дадатковы надпіс чырвонай фарбай: „V.P. Gpodno – Verbindugs — Post Grodno" /„Пошта сувязі. Гародня", /8/. Гэтыя маркі выкарыстоўваліся для аплаты перасылкі лістоў мяйсцовых немцаў да Сувалак, дзе функцыянавала нямецкая пошта побач з польскай і літоўскай. Баўэр гасіў маркі подпісам „В", які ставіў у правым верхнім ражку /7/. Цікава, адна марка аказалася з патройнай наддрукоўкай. Спачатку на расейскай марцы апынуўся украінскі трызуб, затым – польскі і, нарэшце, нямецкі надпісы. Наклад быў надзвычай малы: ўсяго па 100 асобнікаў кожнай маркі. Паштовая сувязь паміж Гародняй і Сувалкамі функцыянавала з 1 траўня да 17 чэрвеня 1919 года.

У 1919 годзе ў Гародні ажыцьцявілі выпуск паштовых марак, якія вядомыя калекцыянерам як „маркі Паўднёвай Літвы" (каталёг YVERT ET TELLIER/: на марках дарэвалюцыйнай Расеі была зроблена наддрукоўка на беларускай і літоўскай мовах слова „Літва", і наміналу ў літоўскай валюце /9/. Мяркую, што маркі выпушчаныя польскай адміністрацыяй, але пераканаўчыя доказы гэтага дапушчэньня адсутнічаюць. Выпушчаныя 11 паштовых марак, у тым ліку 2 бяззубцавых. Наклад таксама быў невялікі.

На гэтай тэрыторыі Беларусі, што была занятая бальшавікамі, паштовыя паслугі аплочваліся расейскімі маркамі. З 1921 года ў абарачэньні знаходзіліся паштовыя маркі РСФСР /10/, а з 1923 года – маркі СССР /11 а і б/. Зроблена некалькі мяйсцовых выпускаў. Наклады іх невядомыя, але, мяркую, былі невялікімі, бо маркі гэтых выпускаў сустракаюцца рэдка.

У 1920 годзе ў Суражы Віцебскай губэрні выкарыстоўвалася расейская марка 1909–1911 гадоў коштам 15 кап. з наддрукоўкай „15 р" /15 рублёў/, пераважна ў перакручаным выглядзе.

У Рагачове ў гэтым жа 1920 годзе на марках Расейскай імпэрыі розных наміналаў адбіта буйнымі лічбамі чорнага колеру новая цана, у выніку іх кошт павялічыўся ў 100 разоў. Маркі са штэмпелямі сустракаюцца ня толькі ў Рагачове, але і ў іншых паштовых аддзяленьнях, падпарадкаваных Рагачоўскаму паштамту, а таксама польнай паштовай канторы 76. Выпушчана ўсяго 8 паштовых марак.

У наступным, 1921 годзе ў Себяжы Віцебскай губэрні на расейскіх марках розных наміналаў зроблена наддрукоўка новай цаны „250" (250 рублёў). Усяго выпушчана 5 паштовых марак.

У 1921 годзе ў Менску на квартблёках марак былой Расейскай імпэрыі 2, 3 і 5 капеек была адціснутая круглая службовая пячатка з надпісам „Рабоче-Крестьянское Советское правительство. Комиссар Почт, Теле-

(Заканчэньне на 4-й стар.).

 

# ПАД БОТАМ АКУПАНТА

*(Заканчэньне. Пачатак на 2-й стар.).*

графов и Телефонов Белоруссии" і савецкім гербам у цэнтры. На другіх такіх жа марках чырвоны адбітак – пячаткі зь іншым надпісам: „Советская Социалистическая Республика Литвы и Белоруссии. Чрезвычайный Комиссар Минского Почтово-телеграфного узла". Адбітак пячаткі ўзняў кошт маркі да 250 рублёў. Маркі гэтага выпуску вядомыя са штэмпелямі Менска і прылеглых раенаў. Усяго выпушчана 6 паштовых марак.

У 1922 годзе зроблены мяйсцовы выпуск у Смаленску. На марках РСФСР 1921 года коштам 250 рублёў (№10 па каталёгу марак СССР) надрукавана наўскас чорная лічба „7500 руб." Выпушчана і паштовая марка. Акрамя каталёгу Чучына, гэтыя маркі апісаныя ў каталёзе Michel.

У Вільні і Віленскім краі з 1918 года ў абарачэньні знаходзіліся маркі Летувы. Дзейнічала тут і нямецкая пошта „Postgebiet Ob. Ost". Дарэчы, эмісія першых паштовых марак Летувы зьдейсьненая ў Вільні ў 1918 годзе. 9 кастрычніка 1920 года польскія войскі пад кмандаваньнем генэрала Л. Жалігоўскага акупавалі Вільню, Ашмяны, Ліду і прылеглыя раёны. 12 кастрычніка гэтага ж года генэрал абвясьціў аб стварэньні так званай Сярэдняй Літвы, а 20 кастрычніка ў абарачэньні зьявіліся першыя маркі з надпісам на польскай мове „Litwa Srodkowa" („Сярэдняя Літва") і з выявай Арла і Пагоні – герба федэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай (12), якая узьнікла пасьля заключэньня Люблінскай вуніі 1569 года. Кошт гэтых паштовых знакаў абазначаўся ў марках, грашовых адзінках тагачаснай Польшчы. Выпуск паштовых марак эфімэрнай Сярэдняй Літвы пацягваўся да сакавіка 1921 года (13). Усяго выпушчана 47 паштовак і 6 даплатных марак адносна вялікім тыражом.

У красавіку 1922 года Сярэдняя Літва, як гэта праектавалася ў Варшаве, увайшла ў склад Польшчы ў якасьці Віленскага ваяводства. З 1922 па верасень 1939 года на гэтых тэрыторыях зь пераважным беларускім насельніцтвам, гэтак жа як і на абсягах Заходняй Беларусі, што былі аддадзеныя Польшчы па дамове 18.03.1921 года (беларуская дэлегацыя ў перамовах ня ўдзельнічала), выкарыстоўваліся паштовыя маркі Польшчы. 10 кастрычніка 1939 года Вільня, зноў жа без узгадненьня з урадам БССР, была перададзеная Летуве і тут у абарачэньні знаходзіліся летувіскія паштовыя маркі, а з 21 ліпеня 1940 года, пасьля „добраахвотнага" далучэньня Летувы да СССР – савецкія маркі. Увайшлі ва ўжытак яны і ў Заходняй Беларусі, у тым ліку й на Беласточчыне, пасьля ўзьяднаньня гэтых спрадвечна беларускіх земляў у верасьні 1939 года з БССР.

22 чэрвеня 1941 года ў межы СССР уварваліся гітлераўскія войскі. Пачалася вайна. Да канца жніўня ўся Беларусь была захоплена. Акупацыйная адміністрацыя перакроіла адміністрацыйна-тэрытарыяльную карту рэспублікі. У так званым „Беластоцкім раёне", у які, акрамя ўласна Беласточчыны, увайшлі Ваўкавыскі, Гарадзенскі і Пружанскі раёны, была створаная нямецкая пошта а аддзяленьнямі ў Беластоку, Бельску, Пружанах, Саколцы, Гайнаўцы, Ваўкавыску, Гародні, Друскеніках і іншых населеных пунктах. Нямецкія маркі, што хадзілі тут, гасіліся штэмпелямі з абазначэньнем даты й месца (14).















*Выявы 11 (а і б) – 16. (Нумары ў тэксьце пазначаны ў дужках. Лічыць па радах зьлева направа).*

На астатняй тэрыторыі Беларусі таксама ўжываліся маркі Нямеччыны, але з 4 лістапада 1941 года яны мелі наддрукоўку „Ostland" („Усход"), (15). Адначасова ў абарачэньні знаходзяцца й маркі Нямеччыны, але з абазначэньнем цаны ў акупацыйных марках і пфенігах. Паўторны выпуск паштовых марак з наддрукоўкай „Ostland" быў зроблены ў 1943 годзе.

Для Віленскага краю акупацыйныя ўлады выпусьцілі ў 1941 годзе ў абарачэньне стандартныя маркі СССР з гарызантальнай наддрукоўкай „Vilnus" („Вільня"), (16). Усяго было выпушчана 9 марак адносна вялікім накладам (203000 штук). Пазьней на зьмену ім прыйшлі нямецкія маркі з надпісам „Ostland". Пасьля выгнаньня акупантаў у 1944 годзе на тэрыторыі Беларусі й Прыбалтыкі пачалі выкарыстоўвацца маркі СССР, знаходзяцца яны ў манапольным ужытку й цяпер.

Гісторыя паштовага абарачэньня на Беларусі, пазбаўленай рэальнага суверэнітэту, праз увесь час існаваньня пошты на яе тэрыторыі не магла быць іншай, як гісторыяй акупацыйных паштовых выпускаў.

І. МАТАВІЛАЎ.

*У артыкуле разгледжаныя толькі акупацыйныя выпускі марак на этнічных беларускіх тэрыторыях. Аўтар з удзячнасьцю паставіцца да кожнага водгуку, да кожнай заўвагі па ўзьнятай у артыкуле тэме, будзе ўдзячны за кожную інфармацыю і аб выпусках беларускіх марак перыяду дзейнасьці ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, розных беларускіх арганізацыяў на Беларусі ды за мяжой.*

*Свае паведамленьні аб Вашых знаходках пішыце на адрас: 220094, Менск, пр-т Ракасоўскага, д. 77, кв. 203, Ігару Матавілаву.*

# Аповяд Лікоўскага скарбу

**/Музэйны лёс скарбу/**

Мы звыкліся, што раз-пораз трапляюць на вочы допісы ў газетах пра знаходкі скарбаў. Звычайна пры канцы ёсьць паведамленьне пра перадачу скарбу ў мясцовы музэй. Аднак бадай ніхто ня ўспомніць што-небудзь пра далейшы лёс скарбу, што трапіў у музэй. І гэта нядзіўна: часьцяком, на жаль, скарб так і застаецца зборам неразабраных манэтаў.

Часам узгадваецца фрагмэнт экспазыцыі музэя ў Троках /Тракаі/: у шкляным кубе ляжыць вядро медных солідаў Рэчы Паспалітай 17 стагодзьдзя. На першы погляд усё нармальна: скарб у музэі, служыць людзям...

Уявіце: скажам, выдала „Мастацкая літаратура" „Майстра і Маргарыту", купілі кнігу мільёны людзей, паставілі на палічку і любуюцца – Булгакаў! – але ніводзін на разгарнуў яе, ні ў кога ня ўзнікла жаданьня даведацца, што ж там пад вокладкай, што думаў, як адчуваў, пісаў аўтар!

Скарб жа – гэта ж таксама кніга, якая адпавядае пра гісторыю зносінаў, грашовую гаспадарку мінулых вякоў, захапляючая кніга з мэталёвымі літарамі-кружкамі. І кніга не растыражаваная мільёнамі, а ў адным экзэмпляры! Таму нагрувашчаньне манэтаў у шкляным кубе, каля якога ахкае, але адразу ж кідаецца подбегам далей чарговы наведвальнік, – узор непаважлівых адносінаў да гісторыі радзімы.

Доўгія гады амаль сем тысячаў манэтаў Лікоўскага скарбу знаходзіліся ў зале Гарадзенскага гісторыка–археалягічнага музэя за шклом вітрынаў. У 1956 годзе багаты скарб быў знойдзены калгаснікам Сьцяпанам Сьцяпанавічам Сарокам у двары ягонага дому. На глыбіні паўметра ў глінянай пасудзіне захоўвалася некалькі соцень срэбных і мноства медных манэтаў, якія былі ў абарачэньні тры стагодзьдзі таму. Так манэты трапілі ў музэй, дзе й ляжалі б дагэтуль у вітрыне, калі б не зьмянілася стаўленьне да іх кіраўніцтва музэя.

І скарб, нібы адчуўшы цяпло чалавечых рук, увагу, загаварыў, расказваючы пра далёкае 17 стагодзьдзе, яго людзей. Гэта не перабольшаньне – пра простых людзей расказалі фальшывыя соліды, якіх было вельмі многа ў скарбе. Фальшывай была кожная трынаццатая манэта. Неахайныя, няўмелыя, часьцяком непісьменныя надпісы на такіх манэтах кідаюцца ў вочы. Мноства такіх манэтаў сьведчыць пра непісьменнасьць большасьці насельніцтва не горш спэцыяльнага дасьледваньня. Фальшываманэтчыкі аказаліся на дзіва непісьменныя. Бывае, што надпіс „Солід Каралеўства Польскага" суправаджаецца гербам Вялікага Княства Літоўскага, а бывае і так, што надпіс „Солід Вялікага Княства Літоўскага" суседнічае з гербам Каралеўства Польскага. Бадай, самае дзіўнае, што фальшываманэтчыкі не толькі „граматы не зналі", але і ў лічэньні дасьведчанымі не былі. Уяўляецца, што лічбы для іх – толькі значкі дэкору. Ды ці і можна думаць інакш, калі ў шэрагу выпадкаў вострасосую „4" ў даце 1664 перадавалі яны крыжыкам? Яўна ня ведалі, што гэта лічба.

Лікоўскі скарб – буйнейшы на Беларусі збор медных солідаў Яна II Казіміра Вазы. З 19.11.1659 па 15.01.1667 года сем манэтных двароў Рэчы Паспалітай выпускалі гэтыя манэты. У абарачэньні знаходзілася каля двух мільярдаў медных солідаў, амаль век яны спраўна служылі людзям, суправаджаючы гаспадара ў дарозе на кірмаш, чакаючы свайго часу ў зямлі, хаваючыся ад чужога вока пад падушкай.

Да гэтай пары няма адзінай думкі, якога віду манэты выпускаў той ці іншы манэтны двор, хоць час работы двароў вядомы. Дарэчы, адзін зь іх быў у Брэсьце і працаваў з 4.01.1665 года. Брэсцкія соліды вызначаць пакуль не навучыліся, але ёсьць гіпотэза, што соліды з так званай „малай манаграмай" біліся ў Брэсьце. Аднак падлік паказаў, што солідаў з „малай манаграмай" на чвэрць менш за ўвесь аб'ём выпуску манэтаў Брэсцкім дваром. Атрыманы вынік не выпадковы: ня толькі Лікоўскі скарб, але й іншыя вывучаныя скарбы Беларусі ды Польшчы ўтрымліваюць такую ж долю гэтых манэтаў. Ці азначае гэта, што гіпотэза памылковая і ад яе трэба адмовіцца? Хутчэй, не. Можна ж знайсьці тлумачэньне факту несупадзеньня долі манэтаў у скарбах і аб'ёмаў вытворчасьці манэтных двароў.

Супярэчнасьць зьнікае, калі ўзяць пад увагу, што ў 1665 годзе ў Брэст былі завезеныя штэмпелі зь Віленскага манэтнага двара, дзе вытворчасьць медных солідаў была наладжана яшчэ зь сярэдзіны 1664 года, і толькі пазьней у Брэсцкага манэтанага двара зьявіліся ўласныя рэзчыкі штэмпеляў. Характэрна, што Уяздоўскі манэтны двор пад Варшавай, які выпускаў каронныя соліды, спыніў сваю дзейнасьць 7.11.1665 года і ў тым жа 1665 годзе зьяўляецца новая разнавіднасьць соліда, вельмі блізкая па адметных рысах адлюстраваньня Пагоні /герба Вялікага Княства Літоўскага/ да солідаў княства, якія біліся ва Уяздове ў 1660–1661 гады. Пасьля спыненьня работы Уяздоўскага манэтнага двара прыкметна ўзмацняецца і прымае ў 1666 годзе шырокія маштабы дзейнасьць Брэсцкага двара, якая ў 1665 годзе ледзь прасочвалася. Вытворчасьць 1665 года была перавышаная ў дзесяць разоў, далёка ззаду застаўся нават Віленскі манэтны двор. Заслугоўвае ўвагі, што аб'ём выпуску Брэсцкага манэтнага двара ў 1666 годзе супадае з гадавой вытворчасьцю Уяздова ў 1664–1665 гады. Цяжка ўтрымацца, каб не зьвязаць гэтыя факты і ня выказаць меркаваньня, што персанал Уяздоўскага манэтнага двара быў пераведзены ў Брэст.

Пошукі „страчаных" гісторыяй брэсцкіх манэтаў – толькі адно з пытачьняў, на якія дапамагае знайсьці адказ Лікоўскі скарб, які доўга маўчаў пад шклом вітрынаў у музэі. Працягваецца вывучэньне скарбу.

У Гарадзенскім гісторыка-археалягічным музэі работнікі знайшлі паразуменьне з даследчыкамі, але гэта толькі адзін з музэяў рэспублікі. На Беларусі створана каля 70 музэяў, і многія зь іх захоўваюць ў сваіх зборах скарбы. Ці ўсе іхнія дырэктары могуць шчыра сказаць, што скарбы ў іх не ляжаць мёртвым грузам? Бадай, Лікоўскі скарб – адзіны ў апошнія 5–10 гадоў, што трапіў у рукі дасьледчыкаў, адзіны з трох соцень скарбаў, якія захоўваюцца ў БССР. Маўчыць „кніга" гісторыі, нямыя ляжаць скарбы. Хіба што зрэдку чуецца звон манэтаў пры чарговай інвентарызацыі і ў дакуманты запісваецца праславутае „манэта польская, солід, круглая, металёвая".

Іван СІНЧУК.










# Часовыя паштовыя аддзяленьні

*(Заканчэньне. Пачатак на 2-й стар.).*

Яно ж працавала ўсяго два сэзоны па 4 месяцы. За гэты час не так ужо многа лістоў было адаслана з Ратамкі, ды і ўсе яны практычна былі адрасаваныя ў Менск. Сёньня гэы штэмпель – рэдкасьць у калекцыях філятэлістаў.

Пакуль мне не давялося высьветліць дакладную дату пачатку работы часовага паштовага аддзяленьня ў вайсковым Скобелеўскім лягеры паблізу Баранавічаў (Наваградзкі павет, Гарадзейская паштовая кантора). Вядома толькі, што ў 1909 годзе яно ўжо працавала. У паштовым аддзяленьні выкарыстоўваўся паштовы каляндарны штэмпель з надпісам „Скобелевский лагерь. Мин. вр. П–Т. О". Гэты штэмпель таксама цяжка адшукаць.

У жніўні 1913 года генэрал ад кавалерыі IУ армейскага корпуса Навасельцаў, часьці якога былі расквартараваныя ў Скобелеўскім лягеры, у прашэньні на імя начальніка Менскай паштовай акругі пісаў: „Прашу аб адкрыцьці пры Скобелеўскім лягеры сталага паштова-тэлеграфнага аддзяленьня на круглы год з восені бягучага года, бо акрамя часцей 40–й пяхотнай дывізіі ў ім застаюцца каманды пры афіцэрах і ад 30–й пяхотнай дывізіі. 9 жніўня 1913 года".

Прашэньні паступілі таксама і ад мяйсцовых жыхароў, якія ў міжсэзоньне падчас вяснова-асенняй бездаражы і сьнежных заносаў адчувалі цяжкасьці з дастаўкай і адпраўленьнем паштовай карэспандэнцыі. Бо на пошту даводзілася ехаць альбо ў Гарадзею, альбо ў Баранавічы.

Сталае паштовае аддзяленьне было адкрытае ў Скобелеўскім лягеры 20 верасьня 1913 года. Пад яго выдзелілі непрыстасаванае памяшканьне з малой колькасьцю пакояў. Не было дзе разьмясьціць тэлефонную апаратуру, не было дзе жыць і работнікам. Да таго ж, увосень залівала акумулятарную і частку памяшканьня пошты. Работнікі Скобелеўскага паштовага аддзяленьня неаднойчы зьвярталіся з просьбай аб узьвядзеньні новага будынку пошты. Такое рашэньне – „Аб пабудове Скобелеўскага паштовага дома пад бляшаным дахам за кошт казны" – было прынятае ў канцы 1913 года, а ў пачатку 1915 будаўніцтва было скончанае.

Усе часовыя паштовыя аддзяленьні на Беларусі працавалі не так ужо і доўга. Гэта відаць і па колькасьці карэспандэнцыяў са штэмпелямі гэтых аддзяленьняў. А гэта ў сваю чаргу і абумовіла рэдкасьць гэтых штэмпеляў, наяўнасьць іх у калекцыях.

Леў КОЛАСАЎ

## Спытайце ў кнігарні

*У гэтым годзе павінны выйсьці з друку наступныя кнігі, якія могуць зацікавіць навукоўцаў, калекцыянераў, усіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі:*

*1. ТКАЧОЎ М. А. „ЗАМКІ І ЛЮДЗІ". Выдавецтва „Навука і тэхніка". Кніга прысьвечана гісторыі вайсковай справы, прыватнаўладальніцкіх пасяленьняў Беларусі ХІУ–ХУІІІ стагодзьдзяў.*

*2. ЦЕЛЕШ В. М. „ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ НА ПЕРАКРЫЖАВАНЬНІ ЭПОХАЎ". Выдавецтва „Беларусь".*

*Аўтар апавядае пра гісторыю беларускіх гарадоў і мястэчкаў Беларусі на пачатку ХХ стагодзьдзя. У кнізе болей за 500 малавядомых здымкаў старадаўніх беларускіх паштовак зь іх апісаньнямі.*

*3. ЦІТОЎ А. К. „НАРЫСЫ СФРАГІСТЫКІ БЕЛАРУСІ". Выдавецтва „Полымя". Кніга прысьвечаная сфагістыцы, навуцы пра пячаткі, якая звязаная з геральдыкай і нумізматыкай. Кніга мае звыш 500 ілюстрацыяў, значная частка якіх друкуецца ўпершыню.*

# БЕЛАРУСКІЯ МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ

*(Заканчэньне. Пачатак на 2-й стар.).*

Шкада, – Полацкаму двару не пашчасцiла.

Але гэта пісаў, так мовіць, чужы даследчык, а што кажа вучань І. Г. Спаскага – адзіны беларускі нумізмат Валянцін Навумавіч Рабцэвіч? Перагартаў яго кніжку „О чем рассказывают монеты" – дарма. Ні гу-гу. Добрая атрымалася кніжка: карысная, ёмістая, навуковая, шкада толькі, што для Полацкага Манетнага двара ў ёй месца не знайшлося.

Але едзем далей. Хто яшчэ мог нешта сказаць пра цікавячы нас аб'ект? Можа, хто з класікаў нумізматыкі: Гутэн-Чапскі.., Талстой.., Арэшнікаў? Можа, але іх працы ў буйных бібліятэках, а ў маёй – няма. Можа, польскія нумізматы? Але, хаця, якая ім справа да адкрытага Кацярынай ІІ расійскага манетнага двара?..

Разважаю, а сам машынальна перабіраю нумізматычную літаратуру на сваіх паліцах... Кавальскі... Казаманава... Фенглер... Катляр... Фёдараў-Давыдаў... Шчалакоў... Максімаў... Рэнцман... Сотнікава... Ізноў Спаскі... Давідовіч... Анохін... Уздзенікаў... Вось гэты, здаецца, найбольш сур'ёзны і практычны з апошніх рускіх нумізматаў. Гартаю. Тут ёсць нават падзагаловак „Временные отечественные монетные дворы". Ці не задалёка прасцёрлася іхняя „бацькаўшчына"? А дзе ж тады наша?

А вось і тое, што нам патрэбна:

„В г. Полоцке. Работал в 1760–х годах, выполняя обратную перечеканку* медных монет, перечеканенных в 1762 г."

Мабыць, ужо ёсць усё. Не хапае толькі дакладнага месца, дзе размяшчаўся двор. А яшчэ мяне бянтэжыць допіс: „работал в 1760–х годах". Дарэчы, ён зроблены амаль да ўсіх часовых манетных двароў Расіі. Але калі ён верагодна гучыць у адносінах да расійскіх манетных двароў, дык да Полацкага – не пасуе. У 1760–ыя гады Полацк быў яшчэ ў складзе Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764–1795) і быў захоплены Расіяй (будзем так гаварыць, а не ўз'яднаны/+) толькі ў самым канцы 1772 года. А значыць і усталяваць тут манетны двор „освободители" змаглі (у лепшым выпадку) толькі ў 1773 годзе.

Цяпер трэба шукаць архівы Полацкага Манетнага двара. Двор працаваў амаль чвэрць стагоддзя, і не можа быць, каб не захаваліся дакументы-справаздачы аб выніках яго работы.

А цяпер (згадзіцеся са мною): калі апусціць увесь працэс маіх (адно хатніх) пошукаў і пакінуць толькі „соль", дык застанецца вось такія радкі.

Манетны двор у г. Полацку быў абсталяваны расійскай імператрыцай Кацярынай ІІ пасля Першага падзелу Рэчы Паспалітай прыблізна ў 1773 г. Выконваў зваротную перачаканку расійскіх медных манет, перачаканеных у 1762 г. Існаваў да 1797 г. Пасля закрыцця манетнага двара абслугоўваючы персанал быў перададзены на іншыя манетныя двары Расіі. Прынамсі, адзін вядомы нам мастак-гравёр Аляксееў Самуіл Яфрэмавіч (год нараджэння невядомы, памёр у 1801 г.) паступіў рысавальным майстрам на С.–Пецярбургскі Манетны двор.

Дык у пошук, беларускія калекцыянеры-даследчыкі! Мы ж з вамі як-ніяк – скарбашукальнікі!..

Дарэчы, а ці не расказаць мне вам заадно і як шукаць скарбы?

*(Працяг будзе).*

---

* Даволі арыгінальна гучыць, на сёньняшні дзень, вось такая цытата з кніжкі П. Н. Бацюшкава „Белоруссия и Литва" (1890 г. СПБ, стар. 307) „... Россия согласилась на давние и настойчивые предложения Пруссии разделить Польское государство и произвела в 1772 году этот раздел, так называемый первый раздел Польши между Пруссией, Австрией и Россией. России достались воеводства Мстиславское, Могилевское, часть Полоцкого с Инфлянтами и часть Минского". А ў людзях гэта склала 648.259 душ сялян, мяшчан і шляхты. Застаецца толькі дадаць, што апетыты захопнікаў на гэтым не перапыніліся. За Першым падзелам, адбыўся Другі і Трэці падзел Рэчы Паспалітай.




*Паштоўка, выдадзеная ў Аўстраліі ў 1948 годзе.*

*З калекцыі Алеся БАРКОЎСКАГА.*

## ЗНАХОДКА, ВАРТАЯ ЎВАГІ

Год таму дапытлівы шукальнік старадаўніх рэчаў, жыхар Оршы дзед Ульлян Хведаравіч Дняпроўскі перадаў у мясцовы гістарычны музэй цікавую знаходку. Гэта ўпрыгажэньне з зубоў жывёліны, кшталту лісіцы ці барсука. Упрыгажэньне складаецца больш чым з 20 зубоў, кожны з каторых маець скразную дзірачку.

Гэта зубы адной жывёліны, яны складаюць поўны набор з абедзьвюх ськівіц зьвера. Ня менш цікавае й месца знаходкі: гэта бераг вусьця Аршыцы пры ўпаданьні яе ў Дняпро, у некалькіх дзесятках мэтраў ад гарадзішча.

Ю. КОПЦІК.

Старонкі гісторыі

# Паўлаўская рэспубліка

*Высокая мэта, хоць бы й нявыкананая, даражэй нам нізкай мэты, нават дасягнутай.*

*І.В. ГЁТЭ.*

Ужо шмат стагодзьдзяў існуюць у Эўропе мініятурныя дзяржавы Андора, Ліхтэнштэйш, Сан–Марына й Манака. Іх часта бяскрыўдна, без абразьлівай паблажлівасьці называюць карлікавымі або кішанёвымі. Усе разам узятыя яны лёгка зьмесьцяцца на тэрыторыі Беларусі 304, а Манака – нават 13 800 разоў.

А між тым усе яны – сувэрэнныя дзяржавы з рэспубліканскай або канстытуцыйна-манархічнай формай праўлення. У кожнай – свой дзяржаўны герб, сьцяг, урад, парлямант, канстытуцыя, дыпляматычныя адносіны зь іншымі дзяржавамі.

Ды й гістарычны шлях дзяржаўнага разьвіцьця ў іх немалы. Сан–Марына, напрыклад, зьяўляецца адной з найстаражытнейшых сучасных дзяржаў Эўропы: яе ўтварэньне адносяць да 301 года н.э., а рэспублікай упершыню названа ў дакумантах Х стагодзьдзя. Крыху маладзейшая Андора. Упамінаньне пра яе, як тэрыторыю з самакіраваньнем, узыходзіць да 805 года. Але гістарычны парадокс заключаецца ня столькі ў самым факце існаваньня міні–дзяржаў, колькі ў тым, што яны дагэтуль утрымаліся паміж Іспаніяй, Францыяй, Італіяй і Аўстрыяй, магутнымі і ў мінулым надзвычай экспансіўнымі суседзямі. І гэта ў той час, калі многія дзяржавы, у тым ліку вялікія імпэрыі, бясьсьледна зьніклі з палітычнай карты Эўропы. Цікава, што ў 1739 годзе папа Клімент XII рушыў на безабароннае Сан–Марына сваё па тагачасных мерках значнае войска, але пракаўтнуць спакуслівы кавалак так і ня змог, нягледзячы на ўсю сваю сквапнасьць: народ узьняў паўстаньне, і сьвяты айцец вымушаны быў прызнаць незалежнасьць маленькай рэспублікі.

Такога зайздроснага даўгалецьця гістарычны лёс не адпусьціў Паўлаўскай рэспубліцы, штучнаму і шмат у чым апэрэтачнаму дзяржаўнаму ўтварэньню, што на працягу 57–мі гадоў існавала спачатку ў межах Вялікага Княства Літоўскага, а з 1793 года – Паўночна–Заходняга краю Расейскай імпэрыі.

Заснаваў гэтую рэспубліку ў сваім уласным маёнтку на рэчцы Мерачанцы, што бярэ пачатак на захадзе ад Ашмян, рэфэрэндар Вялікага Княства Літоўскага Павел Ксаверы Бжастоўскі.

Шляхецкі род Бжастоўскіх у ХУІ–ХІХ стагодзьдзях меў значны ўплыў на ўсе бакі грамадска–палітычнага жыцьця Беларусі. Прадстаўнікі яго некалькіх пакаленьняў займалі высокія дзяржаўныя й духоўныя пасады ў Вільні, Менску, Полацку, Магілёве, Ашмянах, Мядзелі і іншых гарадох. Іхняя магутнасьць грунтавалася на моцнай эканамічнай аснове – вялізных зямельных і лясных уладаньнях. Былі сярод іх памяркоўна–прагрэсіўныя дзеячы зь цьвярозымі поглядамі на рэчы, такія, напрыклад, як прыхільнік добрасуседскіх адносінаў і трывалага міру з Расеяй Цыпрыян Павел, адзін з аўтараў Андрусаўскага перамір'я. Ён нават выступаў за абраньне на польскі прастол рускага цара або царэвіча. Сюды неабходна аднесьці й Ігната, паўстанцкага ваяводу на Магілёўшчыне, які распаўсюджваў сярод сялян у час паўстаньня 1863 года нелегальную літаратуру на беларускай мове, у тым ліку беларускі буквар. Але былі сярод іх і такія цемрашалы, як Канстанцін Казімір, кат у біскупскай сутане, які літаральна мячом і агнём вынішчаў у краі кожны пробліск жывой думкі. Гэта на яго руках кроў беларускага філосафа-атэіста Казіміра Лышчынскага, спаленага ў 1689 годзе ў Варшаве.

Аднак найбольш цікавай, у нейкай меры нават арыгінальнай фігурай быў Павел Ксаверы Бжастоўскі. Гэта ён, на зьдзіўленьне ўсёй шляхты княства, якая празвала яго дзіваком, 220 гадоў назад /10 сакавіка 1767 года/ у сваім маёнтку Мерач, пераназваным пазьней у яго гонар у Паўлава, заснаваў сялянскую рэспубліку. „Сьвяты божа! – на сойміках лемантавала ад абурэньня на беларуска–польскай мяшанцы шляхта. –Зраўняць шляхціца з халопам, з быдлам?!" А справа была ў тым, што па статуту, свайго роду канстытуцыі, зацьверджаным 4 красавіка 1791 года соймам – агульнадзяржаўным заканадаўчым органам Вялікага княства Літоўскага, кожны падданы новай рэспублікі, у тым ліку і сам П.К. Бжастоўскі, лічыўся раўнапраўным грамадзянінам. Кожны валодаў пэрсанальнай свабодай, меў зямлю, мог быць абраным на любую, нават прэзідэнцкую пасаду. Аднак прэзідэнтам, і пры тым пажыццёвым, стаў, быццам бы з удзячнасьці грамадзянаў, сам Павел Ксаверы Бжастоўскі. Відаць, дзесьці ў глыбіні душы, магчыма нават пасьвядома, ён баяўся цалкам выпусьціць маёнтак са сваіх рук і хацеў захаваць за сабой права і магчымасьць аднавіць ранейшае становішча.

*(Заканчэньне на 6-й стар.).*

